Год IV. Сьнежань 1935 г. № 12 (48)

# ДАЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты еси Петръ, и на семъ камени созижду церковь мою. Мата. 16. 18.

## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:




# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.



Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.



Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Сьнежань 1935 г. № 12 (48).

## На дзень Сьв. Клеманса Папы Рымскага

(8.XII—25.XI).

### ЭВАНГЕЛЬЛЕ

### ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ, РАЗЬДЗЕЛ 12, 32—40; ЗАЧАЛА 67.

*Сказаў Госпад:*

*32. Ня бойся, малое стада, бо Айцец ваш упадабаў даць вам царства.*

*33. Прадавайце маемасьці вашыя і давайце міласьцівыя ахвяры. Прыгатоўвайце сабе мяшкі нестарэючыя і скарб, што ня ўбывае на нябёсах, куды злодзей не дабіраецца, і дзе моль не зьядае.*

*34. Бо дзе скарб ваш, там будзе і сэрца вашае.*

*35. Няхай будуць паясьніцы вашыя падпяразаныя і сьветачы запаленыя;*

*36. і вы падобны да людзей, што чакаюць павароту гаспадара свайго з вясельля, каб, як прыйдзе ды пастукаецца, ураз адчыніць яму.*

*37. Шчасьлівыя тыя слугі, якіх гаспадар прыйшоўшы знайдзе на нагах; запраўды кажу вам: ён падпяражацца і пасадзіць іх і, падыйшоўшы, пачне служыць ім.*

*38. І калі прыйдзе ў другую варту і ў трэцюю варту прыйдзе і знайдзе іх так, то шчасьлівыя слугі гэныя!*

*39. Вы ведаеце, што, калі-б ведаў гаспадар дому, у якой гадзіне прыйдзе злодзей, то ня спаў-бы і не дапусьціў-бы падкапацца пад дом яго.*

*40. Будзьце-ж і вы гатовы, бо Сын Чалавечы прыйдзе ў гадзіне, аб якой ня думаеце.*

---

Сьв. Клеманс Рымскі паходзіў з багатай сям'і, быў вучнем самога сьв. Пётры, аб ім успамінае, як аб сваім супрацоўніку, сьв. Павал Апостал у пасланьні да Філіпісэяў. Сьв. Клеманс быў трэцім япіскапам Рыму, ён кіраваў ад 91—101 году, усёю Цэрквою Хрыстоваю, як наступнік сьв. Пётры. Ведама з царкоўнае гісторыі, што калі паўстала спрэчка ды непарадкі ў Карынце, дык каб палажыць канец гэтым непарадкам, зьвярнуліся карынчыкі да Сьв.Клеманса, як зьверхніка царкоўнага. Сьв. Клеманс Папа Рымскі напісаў да Карынту пісьмо, якое было прынята з вялікаю пашанаю і спрэчка скончылася. Карынт знаходзіцца на Ўсходзе ў М. Азіі, бліжэй быў ім сьв. Апостал Іоан у Эфэсе, аднак зьвярнуліся ў важнай справе да япіскапа Рыму, бо ніхто іншы толькі ён быў найвышэйшым кіраўнікам у Царкве Хрыстовай.

Сьв. Клеманс, займаючы найвышэйшае становішча ў царкве, сваім сьвятым жыцьцём, сваёй вялікай навукай шмат навярнуў да Хрыста, за гэта быў схоплены ды высланы, паводле прыказу імпэратара Траяна, за Чорнае мора ў Крым да гораду Херсонесу ля цяперашняга Сэвастопалю. Там было каля 2000 сасланых на цяжкія работы. Бедныя людзі вельмі цярпелі, бо ня было добрае вады. Сьв. Клеманс маліўся і цудоўным спосабам адкрыў у скалах жарало салодкае вады. Праз гэты цуд навярнуў многа няверных. Даведаўшыся аб гэтым імпэратар Траян, казаў прывязаць да шыі сьвятога вялізарны збанок ды затапіць у моры. У тым часе, на гарачую малітву хрысьціян, марская вада апала, мора як-бы адступілася, хрысьціяне знайшлі цела Сьв. Клеманса ля збанка, і на гэтым месцы збудавалі сьвятыню на чэсьць сьвятога мучаніка. Паўдзённы бераг Крыму павялічваецца, так што цяпер тое сьвятое месца, (дзе і цяпер ёсьць часоўня ў 8 кілёмэтрах ад Сэвастопалю) далёка паложана ад берагу мора. Памяць аб сьв. Клемансе жыве там, як лічаць хрысьціяне, апякуном Крыму.

А дзе сяньня спачываюць мошчы Сьв. Сьвяшчэннамучаніка Клеманса Папы Рымскага? Яго мошчы цяпер знаходзяцца ў Рыме. Сьвятыя славянскія Апосталы Кірыла і Мяфод перавязьлі цела Сьв. Клеманса ў Рым. Папа Рымскі з народам вельмі ўрачыста спаткаў за варотамі гораду сьвятыя мошчы (цяпер на тым месцы стаіць часоўня), з вялікай урачыстасьцяю Сьв. Мошчы былі зложаны ў царкве Сьв. Клеманса, дзе і знаходзяцца па сяньняшні дзень.

Мучаніцкая сьмерць не асталася без рэзультату: у 988 годзе на тым сьвятым месцы ў Херсонесе або Корсуні Вялікі Князь Русі Уладзімір прыймае хрост, пасьля ўводзіць хрысьціянства ў Кіеве ды на ўсёй Русі.

Вось чаму Сьв. Сьвяшчэннамучанік Клеманс дарагі ды блізкі для ўсіх славян, таксама і для беларусаў.

За часоў Сьв. Уладзіміра ня было разьдзелу паміж Усходам ды Захадам, паміж так званымі праваслаўнымі ды каталікамі, усе складалі сабою адну царкву Хрыстовую, было адзінства, інакш кажучы, унія. Пасьля гэтае адзінства было разьбіта: славяне ўсходняга абраду, хоць і не адразу, але пайшлі за Канстантынопалем ды адлучыліся ад Рымскага Пасаду, на якім засядаў Сьв. Клеманс.

Як калісьці мучаніцкая сьмерць Сьв. Клеманса выпрасіла ў Бога навярненьне славян праз Сьв. Уладзіміра, так можна спадзявацца, што і ў нашыя часы гэта самая мучаніцкая сьмерць выпрасіць у Госпада Бога вялікую ласку — злучэньне славян у адну Хрыстову сям'ю, адну сьвятую сусьветную царкву пад кіраўніцтвам аднаго павадыра, наступніка Сьв. Апостала Пётры і Сьв. Клеманса Япіскапа Рымскага.

Нашым сьвятым абавязкам ёсьць маліцца, каб гэтае пажаданае злучэньне хутчэй адбылося.

Асабліва ў нашыя сумныя часы, калі бязбожжа пануе ў Савецкай Расеі ды і ў нас зухвала паднімае галаву, калі нават па нашых вёсках можна спаткаць бязбожнікаў, вось— кажу —у нашыя часы трэба ўсім падумаць аб злучэньні. Злучанымі сіламі лягчэй пераможам супольнага ворага — бязбожжа.

Можам быць перакананымі, што калі мы выпаўнім свой абавязак, будзем маліцца, дык напэўна нашая малітва ня будзе безрэзультатнай. Сьв. Сьвяшчэннамучанік Клеманс Папа Рымскі выпрасіць у Бога ласку, каб тыя, што яго супольна паважаюць ды супольна просяць, былі ў супольнасьці веры ды пад адным супольным духоўным кіраўніцтвам Яго Сьвяцейшасьці Папы Рымскага. Амін.

*а. Антоні.*



О. Мануілава.

# Сьв. Альжбета Вэнгерская, ляндграфіня Тюрынгенская

(*Заканчэньне, гл. № 10-11 (46-47) „Да Злучэньня“*).

У 1223 г., калі Альжбеце было шаснаццаць гадоў, у яе нарадзілася першае дзіця-хлопчык, каторага назвалі Гэрманам. Апрача Гэрмана, у гэрцагіні Альжбеты было яшчэ трое дзяцей — усе дочкі, дзьве насілі імя Зофіі, а трэцяя — Гэртруды.

Стаўшы першы раз маткаю, Альжбета, замест таго, каб ладзіць урачыстасьці, апранулася ў простую адзежу, сама ўзяла тайна сваё нованароджанае дзіця і панясла яго па стромай горнай сьцежцы ўніз у царкву сьв. Кацярыны за Эйзэнахам. Там яна палажыла дзіцянё на аўтар і шчыра прасіла ў Бога, каб Ён прыняў яго ў лік сваіх дзяцей. Гэтак сама рабіла яна і з іншымі сваімі дзяцьмі.

Гэрцога Людвіка вельмі любілі яго падданыя, таму што і ён сам любіў іх ды бараніў, дзе мог, іхнія правы. Слава аб ім пашырылася і ў іншых дзяржавах. Імпэратар Фрыдрых II паклікаў яго ў Італію ваяваць разам проці паўстаўшае Болёны і іншых гарадоў. Альжбеце, застаўшыся адной, прышлося больш, як калі-небудзь, памагаць бедным, бо ў Тюрынгене якраз тады быў страшэнны голад, ад якога хварэла і памірала шмат народу. Маладая гэрцагіня, нядоўга думаючы, загадала раздаваць галодным і грошы і запасы збожжа, якія былі ў яе мужа. Больш як дзевяцьсот чалавек штодня прыходзілі ў Вартбург па страву і атрымлівалі яе. Ворагі Альжбеты нападалі на яе і называлі вар'яткаю. Але яна не зьвяртала на гэта ўвагі і далей вяла сваю справу. Часта яна зыходзіла ў Эйзэнах і іншыя ваколіцы, каб даглядаць хворых і карміць іх; там-жа яна ўладзіла прытулак для малалетніх сіротаў, якія вельмі любілі яе і называлі маткаю.

У ліпні месяцы вярнуўся ляндграф Людвік, і ворагі Альжбеты пастараліся яшчэ да яго сустрэчы з жонкаю ачарніць яе ў яго вачох, расказаўшы пра яе раскідлівасьць даб-ром. Але падбухторыць яго было нялёгка і, у адказ на ўсе нагаворы, гэрцог спытаўся толькі, ці здарова яго жонка?

— Дарагая сястра, — сказаў Людвік, абнімаючы яе пры сустрэчы, — а што-ж сталася з тваімі беднымі ў гэты цяжкі год? — Я аддала Богу тое, што было Яго, а Госпад захаваў нам нашае, — адказала Альжбета.

Пасьля гэтае размовы, гэрцог пачаў хадзіць па залі і раптам убачыў, што зусюль, з пад дзьвярэй у залю сыплецца збожжа, так што прыходзілася наступаць на яго.

Людвік спытаўся ў сэнэшаля, што гэта значыць і той адказаў яму, што ўсе сундукі і скрынкі настолькі поўныя збожжа, што яно само сыплецца цераз край і запаўняе пакоі. Тады Людвік з жонкаю зьвярнуліся з падзякаю да Бога.

Гэрцог Людвік дакляраваў француcкаму імпэратару пайсьці разам з ім у Крыжавы паход, але не адважваўся сказаць пра гэта жонцы. Але аднойчы, калі яны сядзелі і гутарылі ўдваіх, яна зьняла з яго пояс і ўбачыла ў партаманэце, прыробленым да пояса, маленькі крыжык, які насілі пры сабе ваякі, што зьбіраліся ў Крыжавы паход. Тады Альжбета зразумела ўсё і ўпала ў роспач ад пастановы мужа; у горы сваім яна была не адна, бо і гэрцагіня Зофія плакала дый падданыя Людвіка бедавалі, што гэрцог ідзе ў гэткі доўгі і небясьпечны паход.

Ня гледзячы на тое, што Альжбета чакала нараджэньня свайго чацьвёртага дзіцяці, яна паехала праводзіць мужа; провады гэтыя вельмі зацягнуліся — ёй даўно пара было вярнуцца дамоў, але бедная жанчына ніяк не магла расстацца з сваім любым мужам, як быццам прадчувала, што больш ня ўбачыць яго жывым. Нарэшце вінaчэрпі Рудольф Варылла, сын таго, што прывёз Альжбету з Вэнгрыі, дабіўся таго, што маладая гэрцагіня вярнулася дамоў.

Альжбета вярнулася ў Вартбург, дзе апранулася ў шэрую ўдовячую вопратку, каб больш яе ня скідаць. Гэрцог Людвік, прыехаўшы ў Італію, заразіўся нейкаю хваробаю, панаваўшаю сярод крыжаносаў. Ужо хворым ён сеў на карабель, каб ехаць у Палестыну. На гэтым караблі ён і памёр, без нараканьня і страху аддаўшы душу сваю Богу. Перад сконам яго, прыляцелі невядома скуль белыя галубы і доўгі час праводзілі карабель. Прыбліжаныя гэрцога пахавалі яго часова ў Італіі, а самі паехалі далей—у Палестыну.

Гору і роспачы маладой гэрцагіні ня было межаў, калі яна даведалася, што муж яе памёр. Законным насьледнікам гэрцога Людвіка быў яго малалетні сын Гэрман, але ў братоў Людвікавых — Гэнрыха і Канрада — знайшліся прыяцелі, парадзіўшыя Гэнрыху выдаліць „багамолку Альжбету“ разам з яе сынам і самому ўзяць усю ўладу ў рукі. Аднойчы, калі маладая гэрцагіня была ў свае сьвякрыві, да іх прыйшлі гэтыя дарадчыкі і пачалі ад імя Гэнрыха дамагацца, каб Альжбета з дзяцьмі зараз-жа выбралася з замку. Гэрцагіня баранілася з усёю сваёю пакорнасьцю, але ворагі яе трымаліся свайго, абвінавачваючы яе ў растраце маемасьці яе нябожчыка-мужа. Гэрцагіня Зофія была абурана гэтым, узяла Альжбету пад сваю абарону і паклікала дя сябе сваіх сыноў. Тыя аднак-жа не зьявіліся.

І вось сталася нешта недапушчальнае: ўдава магутнага гэрцога Людвіка, якую ён гэтак любіў і паважаў, была проста выгнана з замку Вартбургу ў зімовую сьцюжу і непагоду

разам з яе чатырма малымі дзеткамі. Разам з ёю пайшлі яе дзьве верныя дружкі — Гута і Ізэнтруда, непакінуўшыя яе аж да сьмерці. Па крутой камяністай дарозе, сама нясучы найменшае дзіця сваё, Альжбета зыйшла ў Эйзэнах, каб знайсьці там дзе-небудзь прытулішча. Але туды ўжо пасланы быў жыхаром прыказ гэрцога Гэнрыха, ня прымаць Альжбеты да сябе пад страхам яго няміласьці. Людзі, бачыўшыя гэтулькі добрага ад гэрцагіні, карыстаўшыя розныя яе міласьці, адзін за адным зачынялі перад ёю свае дзьверы. Нарэшце яна зайшла ў адну карчму і сказала, што ня выйдзе адтуль, бо там можа прабываць кожны; тады карчмар зьлітаваўся над няшчаснаю сям'ёю і памясьціў яе ў хлеўчыку, дзе толькі што стаялі сьвіньні.

Калі-б сьв. Альжбета была адна, дык усе гэтыя беды і паніжэньні былі-б для яе шмат лягчэйшымі — яна і цяпер дзякавала Богу за тое, што Ён пазбавіў яе ўсяго і зрабіў жабрачкаю. Але-ж у яе былі маленечкія дзеці, якія мучыліся ад холаду і голаду, і сэрца яе разрывалася ад жалю, калі яна бачыла, як яны мерзнуць і просяць есьці. З карчмы Альжбета пайшла ў царкву, дзе сьлёзна малілася Богу, пасьля адзін сьвяшчэньнік даў ёй больш людчэйшае прытулішча ў сябе, але Гэнрыхавы падглядчыкі выгналі яе адтуль, так што яна ізноў вярнулася ў сьвінячы хлеў. Знайшліся, аднак-жа, добрыя людзі, якія ўзялі да сябе яе дзетак і схавалі іх у сябе.

Калі сьв. Альжбета хадзіла па горадзе, дык жыхары часта лаялі яе і насьмяхаліся; знайшлася нават адна старая бабуля (сьв. Альжбета з асаблівай старанлівасьцю даглядала яе ў часе яе хваробы), каторая папхнула яе ў роўчык нячыстотаў, кажучы: „Ня ўмела вось жыць, як гэрцагіня, дык качайся цяпер у балоце!“ Альжбета ўстала з ціхаю ўсьмешкаю і пайшла сушыць сваю прамокшую і запэцканую вопратку.

Наскольні ёй прыходзілася цярпець ад людзкое няўдзячнасьці, грубасьці і подласьці, настолькі, а мо' і ў большай яшчэ меры, Госпад не пакідаў яе сваім падтрыманьнем. Яе дружка Ізэнтруда расказвала пасьля, якія відзеньні былі ў сьв. Альжбеты. Яна шмат разоў бачыла Самога Госпада Ісуса Хрыста, чула Яго голас, казаўшы ёй, што Ён выбраў яе за сваю нявесту; ёй зьяўлялася Божая Маці, доўгі час гаворачы з ёю.

Тымчасам аб цяжкім лёсе Альжбеты даведаліся яе сваякі. Гэрцагіня Зофія напісала да яе цёткі, настаяцельніцы манастыра ў Кітцынгене, якая зараз-жа запрасіла пляменьніцу да сябе, разам з яе дзяцьмі, заапекаваўшыся ёю адпаведна яе сану. Сьв. Альжбета хацела-б жыць, як простая манашка, але яе родны дзядзька, брат яе маці, Япіскап Эгбэрт з Бамбэргу запрасіў яе да сябе і, пасьля яе адмовы

ехаць да бацькі ў Вэнгрыю, пасяліў яе ў замку Ботэнштэйн. Зьдзіўлены яе нязвычайным хараством і маладасьцю (ёй было толькі дваццаць гадоў), Япіскап зьбіраўся выдаць яе замуж за нядаўна аўдавелага імпэратара Фрыдрыха II. Імпэратар таксама рад быў-бы стаць яе мужам, але Альжбета не згадзілася на шлюб, бо хацела захаваць вернасьць Людвіку і ўсе сілы аддаць на служэньне Богу.

Рыцары, быўшыя з ляндграфам Людвікам у Крыжавым паходзе і часова пахаваўшыя яго ў Італіі, вярнуліся тымчасам з Палестыны, выкапалі яго цела і ў дарагой труне павязьлі яго ў Тюрынген, каб пахаваць там, згодна з яго жаданьнем, у манастыры Рэйхардсбрун. Праяжджаючы яны затрымаліся ў Бамбэргу, куды Япіскап Эгбэрт зараз-жа выклікаў сваю пляменьніцу. Прыехаўшы туды, Альжбета пажадала адчыніць труну і, пры паглядзе на астанкі мужа, някранутыя тленьнем, а белыя і чыстыя, як сланёвая косьць, усё яе бязьмежнае гора, уся туга яе па нябожчыку разгарэлася з новаю сілаю, так што страшна было глядзець на яе распачлівыя сьлёзы. Але Бог паслаў ёй новыя сілы і яна апанавала сябе.

Паклікаўшы да сябе Рудольфа Варыллу і іншых прыбліжаных мужа, яна расказала ім пра ўсё, што выцерпела. Рыцары страшэнна абурыліся. Варылла ўгаварыў гэрцагіню ехаць разам з імі ў Рэйхардсбрун.

Пасьля ўрачыстага пахаваньня Людвіка, на якое сабралася шмат народу, Варылла ў вострай форме выказаў гэрцогу Гэнрыху сваю думку аб яго паступку і дамагаўся, каб правы Альжбеты і яе сына былі ўзноўлены, а ён, Гэнрых, разам з маткаю і братам, каб перапрасіў яе. Усё гэта было споўнена, пры чым Альжбета прасіла толькі вярнуць ёй яе пасаг. Яна ізноў пасялілася ў Вартбургу разам з сынам, якому вярнулі яго правы.

Гэрцагіня зараз-жа ўзялася за помач бедным і залажыла прытулак для іх у памяць сьв. Марыі Магдалены. Усе яе горкія расчараваньні і крыўды чалавечыя нічога не зьмянілі ў яе жаданьні служыць Богу і рабіць лягчэйшымі для людзей іхнія мукі. Шмат якія прыдворныя ня любілі яе за гэта, насьмяхаліся з яе, голасна называючы яе дурною і вар'яткаю. Але яна, не зьвяртала на гэта ўвагі, вяла сваю справу далей, а рэшту часу пасьвячала напружанай малітве, пераносіўшай яе ў іншы цудоўны сьвет. У гэты час Кардынал Уголіно, будучы Папа Грыгоры IX, абяцаў ёй у пісьме сваё падтрыманьне.

Сьв. Альжбета пражыла яшчэ год у Вартбургу, а пасьля папрасіла ў Гэнрыха назначыць ёй іншую рэзыдэнцыю. Гэнрых, парадзіўшыся з маткаю і братам, аддаў ёй горад Марбург з усімі належаўшымі да яго землямі і абяцаў пяцьсот марак на завод гаспадаркі.

Жыхары Марбургу сустрэлі яе з вялікай пашанаю, але Альжбета, як-бы спужаўшыся гэтага, не засталася ў горадзе, а знайшла недзе ў лесе на беразе ракі Лян благенькую хацінку, дзе і пасялілася. Хацінка гэтая не бараніла яе, як трэба, ні ад дажджу, ні ад сонца, страшэнна дыміла, але Альжбета жыла ў ёй увесь час, пакуль будавалі ёй у Марбургу невялічкую дзеравяную хату, куды яна перабралася пасьля з сваімі дзяцьмі, а таксама з Гутай і Ізэнтрудай.

Усёю душою імкнулася яна да беднасьці, да ідэалу, данага сьв. Францішкам з Асызу. Яна нарадзілася якраз у тым самым годзе, калі гэты сьвяты адыйшоў ад сьвету, і з дзіцячых гадоў слухала расказы пра яго ад яго місіянэраў, што бывалі ў Нямеччыне; ёй хацелася быць гэткаю-ж беднаю, як ён, і, раздаўшы ўсё, хадзіць ад хаты да хаты, жабруючы. Сьв. Францішак, з свайго боку, ведаў пра подзьвігі Альжбеты ад тых самых місіянэраў і, паводле рады Кардынала Уголіно, паслаў ёй у падарак свой стары, зношаны плашч, каторы гэрцагіня прыняла з падзякаю і апранала яго толькі тады, калі зьвярталася да Бога з якою-нібудзь асаблівою просьбаю.

Альжбецін духоўнік, катораму Кардынал Уголіно паручыў асабліва руціцца аб душы свае духоўнае дачкі, не пазволіў ёй раздаць усяе маемасьці, кажучы, што грошы патрэбны ёй на аплату мужавых даўгоў ды на розныя непрадбачаныя расходы. Сьвяшчэньнік Канрад не перашкаджаў ёй паступіць у ордэн сьв. Францішка. Яна злажыла ўсе манашаскія прысягі, пастрыгла валасы і разлучылася з дзяцьмі.

Альжбета жыла ў Марбургу ў вялікай беднасьці, апранена была ў старую залатаную шэрую вопратку, сама варыла сабе гародніну, катораю толькі і кармілася, бяз солі і іншых прыправаў. Усё, што толькі магла, яна раздавала бедным, а на сваё істнаваньне зарабляла грошы, прадучы воўну. Яна вымагала, каб яе блізкія звалі яе проста Альжбетаю і часта, калі служанак ня было ў хаце, дык яна сама рабіла замест іх усе найцяжэйшыя работы. Увесь іншы час яна старалася служыць бедным і хворым, асабліва пракажаным, сярод якіх выбірала хворых, выклікаўшых у кожнага агіду.

Кароль Вэнгерскі дачуўся пра яе нязвычайны спосаб жыцьця і паслаў да дачкі свайго вяльможу графа Банфі, каб той усё разьведаў пра яе. Граф Банфі паехаў у Вартбург, дзе Гэнрых сказаў яму, што Альжбета проста звар'яцела. Тады ён скіраваўся ў Марбург і знайшоў гэрцагіню ў яе хаце, бедна апраненаю за пражаю воўны — заняткам, неадпавядаўшым яе сану. Граф заплакаў, бачачы гэта, і прасіў Альжбету вярнуцца да бацькі ў Вэнгрыю, але яна, ведама-ж, не згадзілася на гэта.

Духоўнік сьв. Альжбеты, Канрад, каторы яшчэ тады, як жыў яе муж, накладаў на Альжбету строгія пасты, цяпер усяляк стараўся зламаць яе волю і цалком падпарадкаваць яе сабе. Ён забараніў ёй раздаваць шчодрую міласьціну і пазволіў дарыць кожнаму беднаму ня больш, як адзін дынар; жабракі пачалі прыходзіць паўторна, каб атрымаць другі дынар. Канрад заўважыў гэта і забараніў даваць грошы, а толькі лусты хлеба. Калі сьв. Альжбета ня слухала загадаў свайго духоўніка, дык ён біў яе па твары.

Верныя ёй у яе ранейшым і цяперашнім жыцьці Гута і Ізэнтруда былі загадам Канрада аддалены ад яе з заменаю іх простымі і грубымі жанчынамі. Гэтым ён пазбавіў яе, бедную на зямныя радасьці, апошняе прытульнасьці і цяплыні. Ён пазбавіў яе нават і свабоды, таму што прыстаўленыя ім служанкі шпіёнілі і даносілі яму пра кожны шаг і паступак гэрцагіні. Мэтаю яго пры гэтым было „уснасьціць цернем яе шлях да Бога", як ён сам казаў гэта.

Ня гледзячы на жорсткае абыходжаньне Канрада з Альжбетаю, ворагі яе пачалі пушчаць плёткі, быццам адносіны яе і яе духоўніка маюць выразна інтымны характар. Яе верны слуга і абаронца Варылла, даведаўшыся пра гэтыя плёткі, прыехаў да сьв. Альжбеты і сказаў ёй пра іх, радзячы ёй быць асьцярожнаю. У адказ на яго словы яна сказала яму: „Слава Госпаду, Катораму я аддала ўсё, апрача добрага імя свайго, цяпер я павінна аддаць яму і гэта і жыць пагарджанаю".

За ўсе свае зямныя цярпеньні сьв. Альжбета мела і нагароду: тую цудатворчую сілу, якую даў ёй Госпад Ісус Хрыстос, часта зьяўляўшыся ёй.

Аднойчы яна знайшла на парозе шпіталю хлапца-калеку; з дзіцячых гадоў ён быў глухі і нямы ды ўвесь скручаны так, што ня мог хадзіць і толькі поўзаў. Не разумеючы, скуль ён узяўся, сьв. Альжбета спыталася ў яго пра гэта; яна ня ведала, што ён глухі; не дастаючы адказу, яна некалькі разоў паўтарыла сваё пытаньне і нарэшце голасна сказала: „Калі ў цябе ўсяліўся злы дух, дык імем Госпада Ісуса Хрыста заклінаю яго выйсьці з цябе!" У тую-ж мінуту хлапец быў выздараўлены і, стаўшы на ногі, сказаў: „Мая маці прывяла мяне сюды" ды расказаў усё аб сабе. Тады сьв. Альжбета разам з ім шчыра падзякавала Богу за выздараўленьне і прасіла хлапца нікому не казаць, хто яго выздаравіў; яна нават уцякла адтуль, каб ніхто не заўважыў яе. Але калі вярнуўся дамоў былы калека, і яго маці, у вялікай радасьці сваёй, убачыла яго здаровым, дык ён расказаў, што да яго прыходзіла прыгожая маладая дама ў беднай вопратцы і выздаравіла яго. Чутка аб гэтым цудзе зараз-жа разыйшлася ўсюды.

У гэтым кароткім апісаньні немагчыма расказаць пра ўсе цуды, зробленыя гэтаю дзіўнаю сьвятою.

Калі сьв. Альжбеце толькі што споўнілася 24 гады, яна прысьніла дзіўны сон: зьявіўся ёй Ісус Хрыстос і сказаў: „Прыдзі да Мяне, Альжбета, прыдзі ў тыя пакоі, якія Я прыгатовіў табе ў вечнасьці, Я сам завяду цябе туды“. Вялікае шчасьце напоўніла пры гэтым яе спакутаваную душу — яна зразумела, што яе чакае сьмерць і пачала рыхтавацца да яе.

Альжбецін духоўнік быў у гэты час вельмі хворы і прасіў прыйсьці да яго. Ён сустрэў яе вельмі сардэчна і сказаў, што ён мусі хутка памрэ. Альжбета запярэчыла на гэта, што ня ён, а яна хутка разьвітаецца з зямным жыцьцём. Цераз чатыры дні яна запраўды захварэла моцнаю гарачкаю. Быўшая пры ёй служанка раптам пачула нейкае дзіўнае тонкае пяяньне і думала, што гэта пяе хворая. — „Як вы хораша пяялі“, — сказала яна, калі Альжбета расплюшчыла вочы. — „Ты таксама чула пяяньне?“ — спыталася хворая, — „але гэта пяяла ня я, а сюды прылятала маленькая птушачка, пяяўшая гэтак хораша“.

У часе хваробы, якая не праходзіла, сьв. Альжбета, звычайна маўклівая, пачала вельмі шмат гаварыць. Нязвычайна красамоўна расказвала яна пра васкрашэньне Лазара, пра адведаньне Збавіцелем Марыі і Марты. Яе прыбліжаныя не маглі бяз сьлёз слухаць гэтых расказаў, а яна паўтарала словы Ісуса Хрыста: „Дочкі Сыёнскія, плачце аб сабе, а не аба Мне“. Пасьля яна пачала ўспамінаць Нараджэньне Хрыстова, твар яе ясьнеў пры гэтым, і яна ціха і шчасьліва перайшла ў іншы сьвет. Гэта было 19 лістапада 1231 г.

Цела яе было абмыта прыбліжанымі жанчынамі і, згодна з яе жаданьнем, апранена ў тую самую залатаную старую вопратку, якую яна заўсёды насіла, ды паложана ў капліцу пры бальніцы сьв. Францішка. Калі вестка аб яе сьмерці разыйшлася па краіне, дык сабралася шмат народу, каб пакланіцца нябожчыцы, і шмат якія людзі, хочучы мець ад яе што-нібудзь на памятку, адрэзвалі сабе кусочкі яе вопраткі, валасоў і ногцяў. У працягу чатырох дзён, пакуль нябожчыца знаходзілася ў капліцы, тленьне не кранула яе, і твар яе прыгожы пры жыцьці, але ўсё-ж насіўшы на сабе сьляды цяжкіх перажываньняў, цяпер быў поўны дзіўнага, вышэйшага сьвятла, выражэньня незямнога шчасьця, а ўся капліца напоўнена была паходзіўшым ад яе прыемным пахам. Уночы, напярэдадні пахаваньня, над капліцаю сабралася маса прыляцеўшых аднекуль птушачак нікому невядомае пароды і праслаўляўшых сьв. Альжбету сваім пяяньнем. Пасьля яе сьмерці пачаўся цэлы рад цудоўных выздараўленьняў і васкрашэньняў з памёршых, аб чым сьвяшчэньнік Канрад паведаміў Папу Грыгорыя IX. Пасьля гэтага

Папа загадаў яму і Япіскапу Майнцкаму падаць яму ўсе ведамасьці аб жыцьці сьв. Альжбеты. Ведамасьці гэтыя былі сабраны ад вялікага ліку людзей, сьведчыўшых пад прысягаю аб тым, што сьвятая зрабіла для іх і для іхніх блізкіх. Духоўнік яе запісаў усе гэтыя паказаньні, дадаў да іх жыцьцяапісаньне Альжбеты, напісанае ім самым па яго ўспамінах, і ўсё гэта паслаў Папе.

Хутка пасьля сьмерці сьв. Альжбеты, сьвяшчэньнік Канрад, ненавіджаны сваімі іншымі духоўнымі дзяцьмі за жорсткае з імі абыходжаньне, быў па дарозе ў Марбург абкружаны васаламі графа фон-Сайна, каторага ён вінаваціў у ерэсі, і задушаны імі. Ня гледзячы на яго строгае жыцьцё і мучаніцкую сьмерць, Каталіцкая Царква не залічыла яго да ліку сьвятых. Пахованы ён быў у той самай капліцы, дзе спачывала сьв. Альжбета.

Канонізацыя гэрцагіні Тюрынгенскае адбылася пры вялізарным зборы народу і асабістым учасьці імпэратара Фрыдрыха II; ён сам узлажыў на галаву сьвятой залатую карону, каторую ня змог каранаваць яе ў жыцьці, як сваю жонку.

Пасьля сьмерці сьв. Альжбеты, людзі, прасьледаваўшыя яе ў жыцьці, называўшыя яе вар'яткаю і дурною, нарэшце апомніліся і зразумелі, хто жыў сярод іх, і разам з Царквою аддалі ёй належную чэсьць.

Наколькі лягчэйшым і сьвятлейшым было-б жыцьцё гэтых людзей, калі-б яны за жыцьця сьв. Альжбеты ўцішылі сваю злосьць і ненавісьць да яе ды пастараліся зразумець і любіць яе. Сярод нас цяпер няма сьвятых, але ведама, што ёсьць шмат неразуменьня адным аднаго і вельмі мала ўзаемнае любові. Ці не павінны і мы, у нашым шэранькім будзённым жыцьці, павялічыць гэты запас любові да тых людзей, каторых мы крытыкуем і асуджваем, ды пастарацца падыйсьці да нашага бліжняга, паводле тых запаведзяў, якія дадзены людзям Першакрыніцаю дабра і праўды — Госпадам нашым Ісусам Хрыстом?



# З Румыніі.

Сумныя весткі даходзяць да нас з гэтага краю, у якім народ, паводле слоў каталіцкае газэты „Farul nou", найболей толерантны адносна веры, хоць павадыры яго поўныя візантыйскае і сэрбскае ненавісьці, а таксама і кальвіністычнае нетолеранцыі.

У старым румынскім каралеўстве адносіны неблагія; жорсткую рэлігійную барацьбу можна ад'значыць у Сямёхгорадзьдзі, дзе сярод праваслаўнага і каталіцкага жыхарства жыве паўтара мільёна румынскіх уніятаў. Падаём, за вышэйуспомненаю каталіцкаю газэтаю некалькі прыкладаў. Як жыва яны прыпамінаюць паступкі расейскага ўраду перад аканчальным гвалтоўным скасаваньнем уніі ў Літве і Холмшчыне.

У воласьці Sfantul-Gheorghe уніяцкія каляністыя паставілі сабе крыж з абразом Госпада Ісуса Хрыста. Падобны крыж мелі і праваслаўныя. Але стараньнямі праваслаўнага духавенства, — каторае ў гэтай-жа самай воласьці нават ня румынскае, а сэрбскае народнасьці, — цывільныя ўлады выкапалі уніяцкі крыж, трымалі яго тры месяцы ў брудным месцы ў валасной управе і нарэшце ніхто ня мог азначыць, што сталася з крыжом. І гэта не адзіны выпадак.

Калянізацыя ў securnabытых мясцовасьцях ідзе з карысьцю для праваслаўя. Паводле закону для каляністых павінна быць збудована царква і школа. І дзеля гэтага праваслаўнае жыхарства з Сямёхгорадзьдзя перасяляецца ў праваслаўныя воласьці Банату, або пасуседзтву, дзе каляністым вельмі наіўна кажуць, што уніі няма. З другога боку цывільныя ўлады перасяляюць у чыста-уніяцкія воласьці праваслаўных каляністых, каб мець аснову да збудаваньня праваслаўнае царквы з папом. У чыста-нямецкай воласьці Ліблінг прывялі ў валасную управу уніяцкіх каляністых, каб запісаць іх у праваслаўе, нават з музыкай. Нашчасьце суседні уніяцкі настаяцель даведаўся пра гэты абураючы факт, пры якім немагчыма было нават устанавіць, аб чым уласна уніяты заяўлялі, хоць іх зарэестравалі праваслаўнымі. Гэткім чынам стараньнямі энэргічнага настаяцеля уніяты засталіся уніятамі ды збудавалі сабе царкву, каторая служыла ў той-жа самы час і школаю. У сакавіку месяцы ворагі уніі выкарысталі падатковых вураднікаў дзеля прапаганды. Разам з папом зьяўляліся ў уніякія хаты гэтыя вураднікі і дамагаліся, каб зараз-жа заплацілі ўсе належныя сумы за калянізацыю, або пераходзілі ў праваслаўе. За гэта ім дараваліся ўсе даўгі. Бедныя людзі згаджаліся на здраду свае веры. Схізматычная прапаганда няраз зусім бяссорамная. „Farul nou" (№ 50) паведамляе, што ў аднэй

воласьці нават пастухоў змушалі да праваслаўя, а ў адным выпадку праваслаўны архірэй забараніў свайму папу нават гуляць у шахматы з натарыюсам-уніятам. У Тэмэшвары адзін паштовы вураднік мусіў зьмяніць сваё прозьвішча Тауб на Таубэску, але і гэтага было мала: галоўная управа пошты патрэбавала, каб ён прыняў праваслаўе, бо іначай, дык будзе звольнены са службы. Далей — аб зьмене рэлігіі трэба паведамляць валасныя управы. Для тых, што прымаюць праваслаўе, справа ўладжваецца лёгка. А калі хто-нібудзь пераходзіць на унію, дык валасныя управы маюць загад ня выпісваць належных дакумэнтаў і прычыны бываюць розныя. Гэткім спосабам той, хто прымае унію, змушаецца ісьці да натарыюса, а гэта зьвязана, як ведама, са значнымі коштамі.

У праваслаўных газэтах зьявіўся нават проект касацыі уніяцкае епархіі ў Люгошы, каб тым лягчэй залажыць новую праваслаўную мітраполію ў Тэмэшвары. Але будзем мець надзею, што проект гэты, як спрэчны з конкордатам, прынятым урадам і парлямэнтам, ніколі ня будзе зьдзейсьнены.

*Андрэй Багуслаўскі.*

---

# Банкруцтва соцыялізму.

Ня было ў гісторыі здарэньня, — піша „І.К.С.“, — каб якая-небудзь ідэя, што нясе нібыто збаўленьне чалавецтва, пацярпела ў гэткі кароткі час гэткае банкруцтва, якое здарылася з соцыялізмам. Усе іншыя ідэі тварылі цэлыя эпохі, зрэалізавалі часткова свае мэты і паволі, з вялікай барацьбой, уступалі месца новым ідэям, а самі ішлі ў забыцьцё, або і зусім гінулі, але гэтая барацьба абыймала цэлыя стагодзьдзі. Ня кажам тут аб вялікіх рэлігійных рухах, але ўзяць хоць-бы нават рухі палітычныя або палітычна-грамадзкія, жыцьцё і ўплывы якіх цягнуцца блізка што праз цэлыя вякі.

З соцыялізмам здарылася зусім інакш. Ён радзіўся ў XIX стагодзьдзі і ўжо ў першых гадох свайго разьвіцьця пацярпеў заламаньне, якое нанясла яму сусьветная вайна. У 1914 годзе заламалася яго сусьветная ідэя, а ў гадох паваенных — і яго гаспадарча-грамадзкія концэпцыі. Цяпер соцыялізм кіруе ўсе свае сілы на анонімны ўдзел у проціітальянскай супалцы фірмаванай... консэрватыўным англійскім імпэрыялізмам.

Ня многа, як на „гістарычны рух“, які блізка што ўсім

людзям меў замяніць сабой ідэю нацыянальную, рэлігійную, гістарычную традыцыю і г. д. і г. д.

Сяньня соцыялізм ужо жыве жыцьцём банкрута ўва ўсёй Эўропе. Нядаўна яшчэ гэтак моцная і ўсюды панаваўшая ідэя соцыялізму сяньня зыйшла з арэны жыцьця.

Глянька на становішча і значэньне соцыялізму ў 1923—32 г. г. Ён тады ўсюды стаяў каля кіраўніцтва ледзь ня кожнага народу. Зазначылася гэтае панаваньне соцыялізму найбольш у Аўстрыі ў форме аўстра-марксізму, у Нямеччыне, перад гітлераўскім пераваротам, соцыялістыя мелі 7 мільёнаў галасоў ды камуністыя 5 мільёнаў. А што-ж выйшла далей? Ня гледзячы на гэткія шырокія масы прыхільнікаў соцыялізму, ён збанкрутаваў. Чаму? Бо гэтае мільённае масы соцыяльных барацьбітоў не ажыўляла ніякая творчая жыцьцяносная ідэя. І дзеля гэтага соцыяльны правал прайшоў без вялікіх гоманаў, а калі і дайшло да крывавых стычак у Вене, дык толькі таму, што баявікі-соцыялістыя, чуючы крах свае ідэі і панаваньня яе, паставілі на карту ўсю будучыню і ў працягу двух дзён давалі адпор ліквідаваўшай іх сіле. Калі цяперашняй Аўстрыі і пагражае пераварот, — напр. гітлераўскі, — дык напэўна не пагражае ёй пераварот соцыялістычны, або камуністычны.

Яшчэ цікавейшым прыкладам банкруцтва соцыялізму зьяўляецца Гішпанія. Некалькі гадоў таму назад яна зьдзівіла ўвесь сьвет сваёю рэвалюцыяй. Абвясьціла рэспубліку, з уплывам і вялікім значэньнем соцыялізму, але цераз 3 гады наступіла рэакцыя. Соцыялізм выгнаны з палітычнага жыцьця: хоць соцыялістыя і прабавалі ізноў дайсьці да ўлады, але ім гэта не ўдалося і цяпер соцыялістычная партыя ў Гішпаніі зьяўляецца безнадзейнай апазыцыяй. Ня ўтрымаўся соцыялізм і ў Англіі, які давёў яе ледзь не да гаспадарчае катастрофы, ад якое ўратавалі яе консэрватыстыя.

У іншых краінах банкруцтва соцыялізму відочнае, а калі арганізацыі яго існуюць, як напр. у Польшчы, дык ня маюць ніякага ўплыву на палітычнае жыцьцё.

Якую-ж нам трэба вывясьці навуку з банкруцтва соцыялізму?

Соцыялізм ня лічыўся з псыхалёгіяй грамадзянстваў і народаў, і кінуў ім, замест ідэалаў, лёзунг барацьбы за хлеб, як найбольшае і найважнейшае дабро, замест апэляцыі да сэрцаў, апэляваў да жывата. А ці-ж жывот перабудуе сьвет і запаліць розум?



# Урачыстасьць Сьв. Іозафата ў Луцку.

14 лістапада г. г. ў Луцку адбылася вялікая ўрачыстасьць у чэсьць Сьвятога Сьвяшчэннамучаніка Іозафата. На гэтую ўрачыстасьць са згоды Я. П. Япіскапа Луцкага Шэлёнжэка а. Кан. Яглоўскі, Рэктар Сэмінарыі ў Луцку, запрасіў Я. Пр. Япіскапа Мікалая (Чарнецкага) і ўсю Папскую Дубненскую Сэмінарыю з прафэсарамі ды гадунцамі (47 чалавек); зьехалася апрача таго шмат духавенства ўсходняга абраду з Луцкае епархіі.

Архірэйскую Сьв. Літургію адслужыў ў Кафэдральным касьцёле Я. Пр. Уладыка Мікалай у саслужэньні 6 сьвяшчэньнікаў ды 2 дыяканаў. Пяяў вельмі прыгожа, пад кіраўніцтвам добрага рэгента, хор з гадунцоў Дубненскае Уніяцкае Сэмінарыі. Былі прысутнымі на Сьв. Літургіі Іх Прасьвяшчэнствы Япіскап Луцкі Адольф Шэлёнжэк і яго памоцнік Япіскап Суфраган Вальчыкевіч, Пралаты ды Канонікі Луцкае Капітулы, Прафэсары ды гадунцы лацінскае сэмінарыі ў Луцку, апрача таго шмат народу.

Навуку аб Сьв. Іозафаце сказаў сам Уладыка Мікалай. Сьв. Літургія ды навука зрабілі на прысутных вялікае ўражаньне.

Пасьля ўрачыстага абеду ў Луцкай р.-кат. Сэмінарыі адбылася таксама ў сэмінарыі вялікая ды вельмі багатая сваім зьместам Акадэмія ў чэсьць Сьв. Іозафата, якая трывала больш як 4 гадзіны. Прынялі удзел у Акадэміі абедзьве сэмінарыі: Луцкая ды Дубненская. Глыбока абдуманы рэфэрат на тэму „Дух Сьв. Іозафата“ прачытаў а праф. Я. Варшаўскі. Вялікае ўражаньне зрабіла на ўсіх прысутных апошняя сцэна „Кліч Сьв. Іозафата“.

Апрача прыемнасьці, якую мелі ўсе, асабліва гадунцы Дубненскае Сэмінарыі, была і тая вялікая карысьць, што клірыкі 2 сэмінарыяў, лацінскага ды ўсходня-славянскага абраду, мелі магчымасьць зблізіцца, пазнаёміцца; гэта паможа пасьля супольна працаваць на славу Божую ды дабро, як польскага, так і украінскага народу, для збаўленьня чалавечых душаў.

*Злучэнец.*



# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## У бальшавіцкім „раі“.

*(Сцэна з жыцьця ў 1922 годзе).*

Харошы краявід Падольля, якое апынулася пад панаваньнем бальшавікоў, купаўся ў залацістых праменьнях заходзіўшага сонца. Вячэрні ветрык гуляў сярод траваў, разносячы араматычны пах палявых красак. Высокі дубовы крыж з узгорку панаваў над вёскаю ў даліне: уся яна ляжала ў садох, поўная хатак, крытых саломаю, а быстрая рэчка цякла сярод цьвітучых садоў.

На крыжы замучаны Хрыстос — галаву мае спушчаную. Сонца, заходзячы, апошнія свае бліскі клала на яе. Пад крыжам становіцца на калены малы вясковы хлапчук — адзінотны і сумны — становіцца на калены на траве, ручкі злажыў, як на малітву, галоўку прытуліў да крыжа... А Хрыстос як быццам слухае просьбу дзіцяці.

Ой, страшная, вельмі страшная гэтая бальшавіцкая рэлігійная няволя! Антонік падняў галоўку і, гледзячы ў твар Хрыстоў, просіць, моліць! Ведае, што Бог добры, дык шчыра просіць вялікае ласкі: яго дзядуля памірае, а сьвяшчэньніка няма з Госпадам Ісусам!...

Сонца памалу ссоўваецца за ўзгорак, цень крыжа даўжэе на траве, а Антонік усё моліцца. Ён добра помніць, як гэты крыж бальшавікі хацелі выкапаць і спаліць! Помніць, як уся вёска зьбеглася бараніць свой крыж — не дала яго — і ня дасьць! І дзядуля бараніў яго год назад, калі быў яшчэ здаровы; як паехаў да старшага бальшавіцкага камісара і заплаціў яму, абы толькі крыжа не чапалі, помніць ён добра, бо езьдзіў разам з дзядуляй... А цяпер — там у хатцы — яго дзядуля памірае... А сьвяшчэньніка як няма, так няма.

Цішыня. Краскі замыкаюць пахнючыя чашкі, зямля кладзецца адпачыць пасьля дзеннае працы.

Раптам... затарахцела здалёк. Антонік страпянуўся — слухае, глядзіць... Але! гэта яны! З сьвяшчэньнікам цяпер трудна, бо шмат цэркваў бальшавікі пазачынялі або зьмянілі на кіны. І сьвяшчэньнікаў шмат арыштована або расстрэлена, так што ёсьць толькі адзін сьвяшчэньнік на некалькі прыходаў. Дык Антонікаў бацька паехаў у горад, за чатыры мілі, там была царква з настаяцелем. Але два дні чакаў бацюшкі, які тайна аб'яжджаў шмат якія прыходы. Нарэшце вось едзе бацька, а з ім і сьвяшчэньнік, пераапрануўшыся мужыком. Едуць моўчкі, бо Госпад Ісус Хрыстос з імі, схованы на грудзёх у бацюшкі.

Бацька мігнуў малому, які зьбег сьцежачкаю ўніз — да дзедавай хаткі. Усе ўцешыліся, зарупіліся, каб было чыста і хараша на прыйманьні Госпада Ісуса.

Дзеля бясьпечнасьці пазачынялі вокны, засланілі іх. Сабачку-стаража прывязалі ў хлеўчыку, каб брэхам не зьвярнуў увагі на гэтую хату бальшавіцкіх шпігоў, якія ёсьць нават і ў вёсцы.

Паехаў возік навокал, праз густы сад, пад хату і сьвяшчэньнік увайшоў у хатку хворага.

На пасьцелі ляжаў вядомы ў вёсцы гаспадар Мікалай К. Яго высокі лоб зморшчаны ад болю, твар страшэнна зьмяніўся.

Антонік падыйшоў да хворага: — Дзеду, устаньце Госпад Ісус Хрыстос, дзеду!...

Але дзядуля нічога не адказаў — сьвяшчэньнік устрывожыўся ад гэтага маўчаньня... можа ўжо позна?

Тады дачка падыйшла да бацькі, узяла яго за руку. Расплюшчыў вочы — вялікія, сумныя... паглядзеў проста — і памалу зразумеў, што гэта сьвяшчэньнік прыехаў.

— Я чакаў... чакаў Госпада... Ісуса Хрыста, — сказаў перарываным голасам, — дзякуй Богу...

Павярнуўся.

— Падтрымайце мяне, — папрасіў.

Высока палажылі падушкі — адыйшлі ўсе, каб хворы мог выспаведацца.

Пасьля споведзі хворы спакойна ляжаў.

Тымчасам сьвяшчэньнік пачаў маліцца. Хатка зьмянілася ў сьвятыню, у якой гасьціў Бог.

— Божа! я нявартъ... — паўтараў сьвяшчэньнік.

Пасьля Сьв. Прычасьця хворы скрыжаваў рукі на сэрцы. Вусны яго варушыліся, шэпчучы малітву. Урачыстае маўчаньне панавала ў хатцы.

— Гэтак мне... цяпер... добра, гэтак добра! — адазваўся хворы слабым голасам, — Госпад... Ісус Хрыстос... са мною... дзякую, бацюшка!...

Цалаваў і сьлязьмі абліваў руку сьвяшчэньніка. Хацеў сесьці, падтрымалі яго, але сілы яго пакідалі — заплюшчыў вочы.

— Дзе дзеці? — спытаўся праз мінуту.

Антонік з сястрычкаю падыйшоў да ложка, трымаючыся за рукі. Дзядуля паглядзеў на іх гаснучым вокам, пасьля на іхнюю маму, на зяця, багаславіў усіх і ўсё навокал дрыжачаю рукою.

— Любецеся!... Дружына... гэта вялікая справа! Бог з... вамі!... я... адыходжу...

Перарваў.

— Госпад Ісус... Хрыстос... са мною!... са... мною!...

Усе плакалі.

Адчынілі вакно, праз якое ўжо месячык глянуў. Цёплы пахнючы дух ад цьвіўшых яблыняў напоўніў хатку.

— Аддадуць... вам... нашу цэркаўку! — сказаў дзядуля галасьней, — аддадуць!... Бог... справяд...лі...вы!

Заплюшчыў вочы і сканаў...

Усе сталі на калены, сьвяшчэньнік згаварыў малітвы, а месяц сярэбраным сьвятлом, быццам орэолем, абкружыў сівую галаву дзядулі.

— — — — — — — — — — — — — — —

Вечар быў прыгожы, ціхі. Змрок снаваўся сярод агародаў вёскі, а здалёк далятала тарахценьне воза, які адвозіў сьвяшчэньніка ў горад на цяжкую, мучаніцкую працу і ахвяру.

*А. С.*

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Луцк. Перамены сярод духавенства ўсходня-візантыйскага абраду.** А. Ігумен Ніфонт Медведь атрымаў на тры месяцы одпуск і жыве ў Кремянцы, а на яго месца да Куськаўцаў часова назначаны а. Іоан Гэрматюк.

**Мятын ля Роўнага на Валыні.** 10 лістапада г. г. Мятын вельмі ўрачыста абходзіў сваё вясковае сьвята Сьв. Вялікамучаніцы Параскевы. На гэты дзень гаспадары ўсе свае хаты пабялілі, прыбралі ля хаты, дзеля таго вёска мае сьвяточны выгляд.

На гэта вялікае для Мятына сьвята прыехала 3 сьвяшчэньнікі ды дыякан, чацьвёртым сьвяшчэньнікам быў настаяцель у Мятыні а. І. Гук. Саборная служба выпала вельмі ўрачыста ,пяяў вельмі прыгожа мясцовы хор. У канцы службы, па працэсіі з 4 эвангельлямі, сказаў пропаведзь а. Благачынны Додэк. Народу сабралася больш як тысяча. У часе Сьв Літургіі прыехаў праваслаўны бацюшка са сваім псаломшчыкам. Папрабаваў служыць малебен перад запечатаваным храмам, які, як ведама, запячатавала сьвецкая ўлада па просьбе праваслаўных сьвяшчэньнікаў, бо ўся вёска пакінула праваслаўе. Думаў бацюшка, што ўсе пакінуць уніяцкую службу ды пайдуць да яго. З мятынцаў ніхто не пайшоў, а ягоныя людзі прыйшлі да уніятаў. Выйшла наадварот, хацеў перашкодзіць нерастаропны бацюшка уніятам, а ў запраўднасьці памог, павялічыў лік прысутных на уніяцкім багаслужэньні

У Мятыне вельмі добра разьвіваецца рэлігійнае жыцьцё: у царкве зроблены ўнутры купал, псаломшчык-маляр намаляваў прыгожыя іконы, прыхаджане добра трымаюць сябе ў царкве, часта прыступаюць да сьвятых таінстваў.

**Альбэртын ля Слоніма.** У канцы верасьня альбэртынскі уніяцкі прыход злучыўся ў адну працэсію з каталікамі лацінскага абраду і пехатой адбылі ўсё паломніцтва да Жыровіц (15 кілёмэтраў). Там была адпраўлена Сьв. Літургія ўсходняга абраду і пасьля лацінскага. Калісьці Жыровіцы былі цэнтрам каталіцкага жыцьця на Беларусі, можна спадзявацца. што яшчэ заслывуць Жыровіцы, калі кляштар і царква перайдзе паводле справядлівасьці да тых, што будавалі, да уніятаў.

**Дубно.** У Папскай Сэмінарыі жыцьцё ідзе сваім парадкам, можна толькі ад'значыць:

1) гадунцы сэмінарыі адбылі ад 19—25 лістапада пад павадырствам а. Духоўнага рэкалекцыі і праз увесь час нічога не гаварылі да сябе. Рэкалекцыі вельмі ўдаліся, усе здаволеныя ды ўзмацаваныя на духу ўзяліся за працу.

2) Падчас рэкалекцыі адведалі сэмінарыю Іх Пр. Япіскапы з Луцка,Епархіяльны Яп. Шэлёнжэк ды яго памоцнік Япіскап Вальчыкевіч.

У чэсьць сьв. Іозафата ў Варшаве ў касьцёле а.а Базыльянаў 17-га лістапада с. г. урачыстую Сьв. Літургію паводле ўсходняга абраду служыў Я. Пр. Япіскап Коцылоўскі, у прысутнасьці вялікага ліку духавенства. Навуку аб сьв. Мучаніку за Унію сказаў Рэктар а. Пушкарскі. На літургіі апрача грэка-каталікоў было таксама духавенства лацінскага абраду з прадстаўнікамі варшаўскай мітрапалітальнай капітулы на чале.

**Праваслаўнае багаслужэньне на польскай мове.** 11-га лістап. г. г. — у дзень дзяржаўнага сьвята адбылося праваслаўнае набажэнства для праваслаўных жаўнераў Беларусаў і Украінцаў, але, — што найцікавейшае,—на польскай мове. Літургію правіў вайсковы сьвяшчэньнік Федарэнко, а навуку таксама папольску сказаў сьвяшч. Рамаvisualноўскі.

Гэтае набажэнства выклікала зразумелыя водгаласы ў прэсе.

## ЗА ГРАНІЦАЙ

**Рым.** У Рыме, як ведама, істнуе Калегія (сэмінар) для расейцаў („Russicum"). У гэту калегію прыймаюцца ня толькі расейцы, але ўсе, хто жадае навучыцца расейскае мовы і працаваць для расейцаў. У гэтым годзе ў калегію паступілі 3 расейцы, паміж якімі адзін з расейскае арыстакратыі князь Урусаў. Усяго цяпер у „Руссікум" 30 гадунцоў.

Летнія вакацыі Калегія праводзіла на сваёй дачы, якую мае на востраве Эльбе, дзе калісьці быў сасланы Напалеон. Пад канец вакацыяў у кастрычніку прыехаў а. Антоні Дуброўскі, Рэктар Папскае Сэмінарыі ў Дубне, каб даць гадунцом Калегіі 8-дзённыя рэкалекцыі. Вельмі быў задаволены тым духоўным настроем, які пануе ў „Руссікум." Рэкалекцыі адправілі з вялікім скупленьнем і вярнуліся да Рыму.

У Рыме а. Рэктар Дуброўскі меў гонар быць прынятым на прыватнай аўдыенцыі ў Яго Сьвяцейшасьці Папы Рымскага, якому а. Рэктар прадставіў альбом з місійнае працы ўсходня-славянскага абраду і зрабіў даклад аб Папскай Сэмінарыі ў Дубне.

**Ватыкан.** На публічнай кансысторыі 19 сьнежня г. г. Папа Рымскі агалосіць назначэньне новых 20 кардыналаў, сярод якіх будзе Яго Емінэнцыя Нунцыус у Варшаве Мармаджі, Езуіт а. Пётра Боэтто і іншыя. Асаблівае ўвагі заслужвае назначэньне Кардыналам Патрыярха Антыохійскаго Паппкуні. Мы цешымся, што і ўсходні абрад мае свайго прадстаўніка ў Калегіі кардыналаў. З часам усходніх кар

дыналаў будзе больш; можна спадзявацца, што і львоўскі уніяцкі мітрапаліт з часам будзе кардыналам.

**Канец „жывой Царквы“ ў Саветах.** Арганізаваная Саветамі і заўсёды пад „савецкай апекай“ прабываючая „жывая Царква“ сяньня што раз больш замірае.

Надыходзяць весткі з Сыбіру, што „жывая Царква,“ шмат дзе спыніла сваю дзейнасьць.

У Томску, дзе „жывая Царква“ атрымала ад Саветаў найстарэйшую царкву, так сама не пашэнціла, бо трэба было назад аддаць праваслаўным старынны Божы храм, а кіраўнік „жывой Царквы“ паступіў у „бязбожнікі.“

**Гітлераўцы засудзілі Япіскапа ў Місьні.** Пасьля тыднёвага працэсу за дэвізовы праступак Япіскап Пётра Легге засуджаны на 100 тысяч марак штрафу. Брата Япіскапа, др. Т. Легге, засудзілі на 5 гадоў турмы і 70 тысяч марак, а гэнэральнага вікарыя др. Солпа на 3 гады турмы і 70 тысяч марак.

Урад сканфіскаваў 95 тысяч галяндзкіх гульдэнаў у аблігацыях — уласнасьць місьненскай епархіі.

**Сьмерць у турме правінцыяла нямецкіх дамініканцаў.** Бэрлінскі „Даллы Тэлеграф“ падае, што 3 кастрычніка г. г. памёр у Ольдэнбурскай турме правінцыял нямецкіх Дамініканцаў а. Тамаш Штугльвэйссенбург. Ня гледзячы на перашкоды з боку ўлады, на хаўтурох Нябожчыка ў Дюссэльдорфе сабралася паўтысячы асоб. Правінцыял быў арыштаваны пад закідам дэвізовых праступкаў і даўно чакаў разгледжаньня свае справы, але ня прышлося. Ужо Найвышэйшы Судзьдзя яго асудзіць.

**Ахвярная праца місіянэраў у Абісініі.** “The Universe“ у досыць вялікім артыкуле апісвае жыцьцё і ахвярную працу двух місіянэраў а.а. Капуцынаў, якія ў працягу многіх гадоў працуюць сярод абісінскіх пракажаных недалёка ад гораду Гарар, нясучы гэтым гаротнікам помач матар'яльную, а разам з тым і сьвятло Хрыстовай навукі.

У той час, як уся Абісінія гарыць страшэнным ваенным пажарам, у Гарары ня спыняецца ціхая, поўная ахвяры і адданасьці праца, у якой паважнае месца заняў французскі мясцовы консул др. Фэронэм.

Трэба дадаць, што старэйшы з а.а. Капуцынаў а. Кароль мае ледзь ня ўсе найвышэйшыя вайсковыя ад'знакі, якія здабыў у акопах пад Вэрдэнам, бо, як гарачы патрыёт, у пачатку ўсясьветнай вайны пакінуў сваю апостальскую працу і ўзяўся за меч, каб ратаваць сваю бацькаўшчыну. Пасьля вайны гэты апостал-салдат ізноў вярнуўся да сваіх бедных пракажаных, каб ізноў нясьці ім помач і сьвятло Хрыстовае.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Сьнежань 1935 г.

**Стары стыль** **Новы стыль**

| Кал, нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i światy łac. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | С | Наума | 14 | S | Śpirydona |
| 2 | Н | **Н. 26 па С.**, Аўвакума | 15 | N | Walerjana |
| 3 | П | Зофіі | 16 | P | Eŭzebija, Albiny |
| 4 | А | Барбары | 17 | A | Łazara, Alimpii |
| 5 | С | Саўвы | 18 | S | *Suchi dzień*. Wiktaryna |
| 6 | Ч | **Мікалая Цудатворцы** | 19 | Č | Urbana V papy |
| 7 | П | Амброзія | 20 | P | *Suchi dzień*. Teafila i taw. |
| 8 | С | Патапа | 21 | S | *Suchi dzień*. Tamaša |
| 9 | Н | **Н. 27 па С.,Неп. п.Пр.Б.** | 22 | N | Zenona |
| 10 | П | Міны | 23 | P | Wiktoryi |
| 11 | А | Данілы | 24 | A | *Kućcia*. Adama i Ewy |
| 12 | С | Сьпірыдона | 25 | S | **Naradž. Chrystowa(Kal.)** |
| 13 | Ч | Аўксенція | 26 | Č | **Druhi dzień Kalad.** |
| 14 | П | Тырса і тав. | 27 | P | Ap. i Ewanh. Jana |
| 15 | С | Элеўфэрыя | 28 | S | Dzietak Muč., Wiktara |
| 16 | Н | **Н. 28 па С.**, Агея | 29 | N | Tamaša, Dawida, Urbana |
| 17 | П | Данілы пр. і 3 муч. | 30 | P | Aŭhienia |
| 18 | А | Савасьцяна | 31 | A | (*Kućcia*). Sylwestra |
| | | | | | STUDZIEŃ 1936 h. |
| 19 | С | Боніфацыя | 1 | S | **Nowy Hod. Abr. I. Chr.** |
| 20 | Ч | Макарыя | 2 | Č | Imieńnia Jezusa |
| 21 | П | Юльяна | 3 | P | Genowefy |
| 22 | С | Анастасіі | 4 | S | Tytusa b. i m. |
| 23 | Н | **Н. 29 па С.**, 10 муч. Кр. | 5 | N | Telesfora pap. |
| 24 | П | *Куцьця*. Аўгені | 6 | P | **Try Karali** |
| 25 | А | **Нараджэньне Хрыстова** | 7 | A | Lucyjana |
| 26 | С | **Сабор Пр. Багародзіцы** | 8 | S | Seweryna ap. |
| 27 | Ч | Сьцяпана | 9 | Č | Marcyjany |
| 28 | П | Вальдэмара | 10 | P | Ahatona |
| 29 | С | 14.000 дз. заб. у Віф. | 11 | S | Hygina |
| 30 | Н | **Н. 30 па С.** Анісі муч. | 12 | N | **Sw. Siamji** |
| 31 | П | Маланіі | 13 | P | 40 žaunier. muč. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.

